# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 12 (1256) ГОД XXV 23 САКАВІКА 1980 г. ЦАНА 1 ЗЛ.





# НАШ ГОЛАС

З якімі думкамі, з якімі пачуццямі ідзем мы на выбары? Ці толькі таму, каб апусціць у выбарчую урну падрыхтаваныя для нас бюлетэні з прозвішчамі кандыдатаў у паслы і радныя?

Ці толькі таму? Ці ў гэтым простым жэсце сапраўды праяўляецца штосьці шмат важнае, непаўторнае, урачыстае? Што варты мой адзіночны голас?

Падазраю, што такія, або падобныя думкі хвалююць сёння амаль усіх нас.

Думаючы над імі, над гэтымі пытаннямі, прыйшоў я да вываду, што мой голас спалучаецца з галасам маіх суседзяў, аднавяскоўцаў, жыхароў гміны... ваяводства... краіны... і становіцца нашым супольным, шматмільённым агульнанародным голасам, у якім якраз і праяўляецца аднадумная падтрымка выбарчай платформы Фронту адзінства народу, абаснаванай на пастановах VIII З'езду Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Вось чым перапоўнены з выгляду просты гэты акт усеагульнага галасавання! Аддаем мы тады свой голас перш за ўсё за далейшае замацаванне **сацыялістычнага ладу** ў нашай краіне. У час пасляваенных пераўтварэнняў, якія здзяйсняліся ў Польшчы пад кіраўніцтвам партыі, сацыялістычны лад прывіўся ў свядомасці ўсяго народу. З яго дабрадзействаў асабліва шмат скарысталі жыхары даўнейшых паўночна-ўсходніх крэсаў, заселеных пераважна беларусамі. Колькі дзяўчат, колькі юнкоў і ўсіх іншых ад самага пачатку народнай улады аж па сённяшні дзень смела выкарыстоўвае няведаныя раней шанцы, якія стварыў для нас сацыялістычны лад. З глухіх вёсак і пасёлкаў ішлі яны ў свет, каб вучыцца, будаваць, абслугоўваць станкі і машыны...

Памятаю, было гэта зараз пасля першых выбараў у заканадаўчы Сейм, якія адбыліся ў студзені 1947 года. Прыехаў у нашу вёску нейкі прадстаўнік павятовых улад Саюза барацьбы маладых і запрапанаваў майму старэйшаму брату паездку ў Варшаву, каб там паступіць на падрыхтоўчыя курсы да навукі ў вышэйшай школе. Маці, якая не ведала аніводнай літаркі, з перапалоху загаласіла: *„Куды? У Варшаву? Дзе ж яна, гэтая Варшава? Навошта яна табе? Ёсць жа бацькоўская гаспадарка!“* Брат, аднак, паехаў, а з Варшавы накіравалі яго яшчэ далей — аж у Маскву, адкуль вярнуўся з дыпломам інжынера і быў першым прадстаўніком нашай вёскі з вышэйшай адукацыяй. У даваенны час на звыш сотню гаспадароў, якія засялялі нашу вёску, толькі некалькі ўмела крыху чытаць, а заявы да ўлад пісаў ледзь адзін чалавек.

Гэтыя простыя факты, якія можна наглядаць у кожным кутку нашай Беласточчыны, варта часам сабе прыгадаць.

Вядома, жыццё наша ніколі не праходзіла без клопатаў. Былі, ёсць і будуць на нашым шляху ў лепшую будучыню шматлікія цяжкасці. Для прыкладу, як цяжка ўсё яшчэ дастаць гаспадару некалькі мяшкоў цэменту, вапны, ці іншых будаўляных матэрыялаў! Колькі часу трэба пахадзіць па розных установах, пакланяцца розным „панам“ і „паненкам“, пашукаць „моцных“, якія прапхнулі б справу. Гэта, на жаль, праўда. Але праўдай таксама з'яўляецца і тое, што цэлая наша краіна безупынку з'яўляецца адной аграмаднай плошчай пабудовы чагосьці новага. Толькі жылых кватэр (на недахоп якіх безупынку наракаем!) запланавана аддаць у карыстанне **1 мільён 700 тысяч.** Гэта на працягу адной пяцігодкі ў маштабах краіны. Калі б абмежавацца толькі Беласточчынай, дык з дакументаў, прадстаўленых на апошняй ваяводскай справаздачна-выбарнай партыйнай канферэнцыі, вынікае, што на працягу мінулага чатырохгоддзя пабудавана ў нас 23 тысячы кватэр, а на гэту пяцігодку запланаваны падобныя тэмпы ажыццяўлення жыллёвага будаўніцтва, з тым, што ваяводскі камітэт партыі мае яшчэ распрацаваць асобны, шмат павышаны, але і рэальны план пабудовы кватэр.

І за гэта наш голас. А яшчэ мы галасуем і за тое, каб з кожным годам жылося нам выгадней, лепш і спакайней. Гэта асноўная, пастаянная мэта, да якой безупынку мы імкнемся, якую ў сваіх з'ездаўскіх пастановах указвае нам партыя. І гэтыя імкненні ўсё хутчэй і хутчэй пераўтвараюцца ў неад'емную частку нашага штодзённага быту.

Памятаю, які я быў шчаслівы, калі некалькі гадоў пасля вайны ўдалося мне ўпершыню пракаціцца на ўласным веласіпедзе. Пазней быў матацыкл, а гадоў сем таму назад купіў я сабе „Сірэну“ і паспеў ужо яе прадаць, бо не гонар цяпер на такой машыне ездзіць, трэба лепшую... І так амаль у кожнай сям'і — на вёсцы і ў горадзе. Проста пастаянна павышаецца ўзровень нашага дабрабыту і нашых патрабаванняў. І так будзе надалей. З'ездаўскія пастановы прадбачваюць павышэнне рэальных даходаў насельніцтва ў гадах 1981-1985 на ўзроўні ад 10 да 12 працэнтаў.

Але ніхто нам маннай кашы з неба не насыпле. Прыдзецца самім папрацаваць болей салідна, болей разумна. У апошнім дзесяцігоддзі наша гаспадарка паглынула сотні мільярдаў злотых на новыя капіталаўкладанні, на пакупку навейшай на свеце тэхналогіі. Цяпер наступіў час зборкі пладоў з гэтага інвестыцыйнага пасеву. Трэба, каб фабрыкі і прадпрыемствы паказалі, што патрапяць аддаць дзяржаве доўг у высакаякасных таварах, якіх патрабуюць людзі, якія змаглі б прабіцца на міжнародныя рынкі.

І за гэта наш голас. А яшчэ мы галасуем і за тое, каб здаровымі быць, каб спакойна свой век дажываць.

Каб мы здаровымі былі — шмат гадоў таму назад па прапанове Эдварда Герка

Працяг на стар. 4




У студзені бягучага года мы звярнуліся да начальнікаў гарадоў і гмінаў Беластоцкага ваяводства з пытаннем:

**—Што вы лічыце за найважнейшае грамадска-гаспадарчае дасягненне ў гміне ў мінулым годзе?**

Сёння адказваюць:

**Інж. СТАНІСЛАЎ КАСТЭРА, начальнік горада Гайнаўка:**

— Далейшы прагрэс у грамадска-гаспадарчым развіцці нашага горада.

Пабудавалі мы 245 жылых кватэр у многасямейным будаўніцтве і 50 аднасямейных дамоў. Пачалі пабудову новага жыллёвага пасёлка „Лясное“ па вул. Ліповай і падрыхтавалі звыш 200 новых будаўнічых пляцовак на пасёлку Пашкі. Пабудавалі 2 км водаправоднай сеткі па вул. Мілкоўскага і Ліповай. Мадэрнізавалі электрычнае асвятленне на некалькіх вуліцах. Пачалі рабіць новыя газоны і кветнікі.

На пасёлку „Гайнаўка II“ аддалі ў карыстанне дзіцячыя яслі на 100 месц.

У жніўні перадалі ў карыстанне першы сегмент экскурсанцкага дома ПТТК на 60 начлежных месц. Стаіць ён блізка ад вакзала ПКП, на вуліцы Паркоавай 8.

Арганізавалі вялікае культурна-разрыўковае мерапрыемства — фэстын рабочых.

Аднак найбольшым дасягненнем нашага горада было адкрыццё ў лістападзе гарадской аўтобуснай лініі.

**Інж. ЯН САДОЎСКІ, начальнік горада Бельск Падляшскі:**

— Далейшае паляпшэнне сацыяльна-бытавых умоў насельніцтва Бельска, перш за ўсё ў галіне жыллёвага будаўніцтва, камунальнага абсталявання, бытавых паслуг, школьніцтва і аховы здароўя.

У 1979 годзе Бельск павялічыўся на звыш 800 жыхароў. Цяпер у ім пражывае 19 841 асоба. Зараз на прадпрыемстве грамадскай прамысловасці працуе 8 370 чалавек. Прамысловыя прадпрыемствы выканалі свае прадукцыйныя планы ў сярэднім у 101,2% (у параўнанні з папярэднім годам гэта ўзрост на 7,2%). Бельскія будаўнічыя прадпрыемствы павялічылі сваю будаўніча-мантажную прадукцыю на 13,3%. План бытавых паслуг для людзей прадпрыемствы грамадскай гаспадаркі выканалі ў 107% (узрост на 19,3%). Гандлёвыя ўстановы (іх 122) план рознічнага продажу выканалі ў 102,3%. Дванаццаць гастранамічных прадпрыемстваў (яны маюць 528 спажывецкіх месц) выканалі план у 108,6%.

У мінулым годзе ў Бельску прыбыло па 3 км водаправоднай і каналізацыйнай сетак, паўкіламетра цеплавой сеткі, 2,2 км лініі электрычнага асвятлення, 2,6 км адноўленых палотнаў вуліц, 1,2 тратуараў і 4 га зялёных насаджэнняў.

Перадалі ў карыстанне 221 жылую кватэру ў рамках спулдзельчага шматсямейнага будаўніцтва. Апрача таго, закончылі пабудову 85 аднасямейных дамоў.

У чатырох пачатковых школах, двух агульнаадукацыйных ліцэях і пятнаццаці прафесіянальных школах навучаецца 6 000 школьнікаў. 929 з іх абяспечаны кватэрамі ў інтэрнатах.

Работнікі Бельскага дома культуры актывізавалі рабочыя калектывы мясцовых прадпрыемстваў і ўстаноў, школьную моладзь і самадзейнікаў да больш змястоўнай культурнай дзейнасці.

Многа мы зрабілі ў галіне аховы здароўя. Цяпер у Бельску працуюць 63 лекары і 253 медсястры.

Пачалася ў нас пабудова прадпрыемства па мантажу электралітычных кандэнсатараў „Унітра-Эльпольд“, на якім у бягучым годзе пачне працаваць пяцьсот асоб, у асноўным жанчыны.

Варта адзначыць вялікую грамадскую актыўнасць гарадскога насельніцтва. Выканала яно грамадскіх пачынаў на суму 8 мільёнаў 308 тысяч злотых.

Падрыхтаваў **Я. Целушэцкі**

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### АЛІМПІЙСКІЯ ЦУКЕРКІ

Шмат розных гатункаў цукерак, шакаладу, пячэння і іншых відаў кандытарскіх вырабаў — такі асартымент Гомельскага вытворчага аб'яднання „Спартак". Цяпер тут пачалі выпускаць 11 лепшых сваіх вырабаў з эмблемай Алімпіяды-80. Сярод іх — набор цукерак „Алімпійскія зоркі", „Спрынт", „Славяначка", шакалад „Алімпійскі" і іншыя.

### МАШЫНЫ ДЛЯ ФЕРМ

Уступіў у строй новы вытворчы корпус завода „Брэстсельмаш" плошчай восем тысяч квадратных метраў. Тут змантіраваны канвееры для зборкі цяплавых машын і прыточна-выцяжных установак жывёлагадоўчых ферм. Абноўлены станочны парк. Зварка, гальваніраванне, афарбоўка, транспартныя аперацыі механізаваны і аўтаматызаваны. Магутнасць завода павялічылася ў два разы.

### КАЛЯНДАР

**135 гадоў назад**

27.3.1845 нар. В. К. Рэнтген, нямецкі фізік. Адкрыў (1895) рэнтгенаўскія прамяні.

**60 гадоў назад**

23.3.1920 нар. А. Пысін, беларускі паэт.

**55 гадоў назад**

23.3.1925 нар. В. Швед, папулярны на Беласточчыне беларускі паэт-белавежац.

* * * * * * * * * *

*24 III 1910 г. „Наша ніва" пісала:*
*М. Волпа, Гродз. губ. і пав. Мястэчка гэтае, як і ўсе вёскі, што ляжаць каля яго, беларускія, але толькі бяда, што народ круціць язык і чураецца сваёй мовы, а гаворыць так: як каталік — дык на моду польскую, а як праваслаўны — па расейску. Грамадзянскага жыцця тутака і паміну няма; народ яшчэ такі цёмны, што верыць у розныя чары, — ажно брыдка і казаць. Але затое маем і другую культуру: як прыйдзе свята — ды хоць і буднім днём гэтага хватае, — то ўсе корчмы паўнюсенькі беларусамі! І здаецца такое малое мястэчка, а піўных больш 5-ці і каб хоць народ быў багаты, а то беднeнькі, гаспадаркі кепскіе, заўсёды неўраджаі, а хто мае — які апошні грош, той нясе ў карчму. Прабаваў тутака пробашч адвучаць людцоў ад гарэлкі, вось паехаў ён да аднэй вёскі і давай ім чытаць па беларуску аб п'янстве і бядзе, якая з яго бывае. Ну і што ж? Людзі пастаялі паслухалі, а на другую нядзелю быццам наслухаўшыся ксяндзоўскай гутаркі, у два разы больш напіліся.*

*Прасвета таксама стаіць вельмі дрэнна хоць і ёсць школка, але няма ахвотнікаў хадзіць вучыцца ў яе. Не з вялікай ахвотай бацькі пушчаюць у школу сваіх дзяцей: лепей, кажуць, папрацуй у хаце.*

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.

B.Z.Graf. Zam. 495 Nakład 7.900 I-2





*На лыжні алімпійскага комплекса Раўбічы.*

*Фота Уладзіміра Казлова.*

### КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# БЕЛАРУСКІ СПОРТ

У Беларусі актыўна займаецца гімнастыкай і спортам кожны трэці жыхар.

Гімнастыка — абавязковы прадмет у праграме навучання агульнаадукацыйных школ. Калі ў хлопчыка або дзяўчынкі, апрача ахвоты паскакаць ды пабегаць, выявілася асаблівая цяга да якога-небудзь віду спорту, яны могуць паступіць у спецыяльны клас, што ёсць ужо ў большасці школ, ці ў дзіцяча-юнацкую спартыўную школу, такіх школ у рэспубліцы ёсць каля чатырохсот.

У рэспубліцы дарослым створаны 8 дабравольных спартыўных таварыстваў. Для заняткаў па гімнастыцы і спорту ў Беларусі ёсць 113 стадыёнаў, каля 3 тысяч спартыўных залаў, 65 крытых плавальных басейнаў, больш за 2 тысячы стралковых ціраў, болей чым 7 тысяч футбольных плашчадак і 30 тысяч адкрытых спартыўных плашчадак. Такія аб'екты, як мінскія Палац спорту, Палац лёгкай атлетыкі, Стралковы стадыён, Рэспубліканская конна-спартыўная школа, Палац воднага спорту, алімпійскія комплексы „Раўбічы" і „Стайкі" высока цэняцца не толькі савецкімі, але і замежнымі спартсменамі.

Падрыхтоўкай спартсменаў кіруюць каля 12 тысяч штатных працаўнікоў і 550 тысяч іх памочнікаў: арганізатараў, інструктараў, суддзяў, метадыстаў. Вялікую дапамогу ім нясе Мінская навукова-метадычная бібліятэка па фізічнай культуры (між іншым, — адзіная ў СССР), у якой ёсць каля 400 тысяч кніг на розных мовах. Бібліятэка вымяньвае самыя новыя выданні з спартыўнымі арганізацыямі ўсіх сацыялістычных краін, а таксама Аўстрыі, Англіі, Канады, Бельгіі, Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, Злучаных Штатаў Амерыкі.

Штодня ў рэспубліцы праводзяцца розныя спаборніцтвы, на якіх спартсмены дасканаляць сваё майстэрства. Спартыўны каляндар прадбачвае турніры для спартсменаў розных узроўняў і ўзростаў. Маладыя змагаюцца да ўзнагароды клубаў: футбалісты — клуба „Скураны мяч", хакеісты — „Залатая шайба", шахматысты — „Каралеўская тура", лыжнікі і канькабежцы — „Сняжынка".

Для дарослых у кожным горадзе штогод праводзяцца зімовая і летняя спартакіяды. Іх пераможцы бароняць гонар сваіх камандаў на Спартакіядзе Беларусі. У 1979 г. як генеральная рэпетыцыя перад Алімпіядай — 80 прайшла VII Спартакіяда народаў СССР, у яе фінальных спаборніцтвах прымалі ўдзел таксама замежныя спартсмены з 85 краін свету.

Штогод на стадыёнах і ў спартыўных залах нашай рэспублікі выступае больш за тысячу замежных спартсменаў. Асаблівай папулярнасцю ў іх карыстаюцца такія міжнародныя спаборніцтвы, як змаганне за Кубак Беларускай ССР па фехтаванню сярод жанчын, традыцыйны турнір барацьбы ў вольным стылі, міжнародны турнір скачкоў у ваду „Веснавыя ластаўкі", спаборніцтвы ў пяціборстве за ўзнагароду Беларускай тэлевізіі і многа іншых спаборніцтваў.

У той жа час каля тысячы беларускіх спартсменаў выязджае на міжнародныя спаборніцтвы за межы нашай дзяржавы. Так, штангісты ўжо некалькі год выступаюць на спаборніцтвах у Чэхаславакіі, раварысты — у Венгрыі, фехтавальшчыкі — у Аўстрыі, на Кубе, у Балгарыі, лёгкаатлеты — у Ісландыі, весляры — у Польшчы. У апошнім часе прозвішчы беларускіх гімнастаў сталі добра вядомыя ў Аўстрыі. Традыцыйныя ўжо сустрэчы спартсменаў з гарадоў-пабрацімаў: Магілёва і Габрава, Гродна і Беластока, Брэста і Любліна. З кожным годам колькасць гэтых сустрэч павялічваецца.

Беларускія трэнеры і спецыялісты часта выязджаюць заграніцу. Толькі апошнімі гадамі нашыя трэнеры працавалі ў Алжыры, Беніне, Італіі, Афганістане, на Кубе, у Балгарыі, Інданезіі, Польшчы і шэрагу іншых краін.

Нядаўна па просьбе спартыўных арганізацый Эфіёпіі савецкія спецыялісты ўдзельнічалі ў апрацаванні праграмы развіцця фізічнай культуры і спорту ў гэтай краіне. У складзе дэлегацыі былі таксама прадстаўнікі нашай рэспублікі. Яны памаглі эфіёпскім сябрам падрыхтаваць масавыя выступленні на спартыўным свяце з нагоды Дня рэвалюцыі Эфіёпіі. За выдатную працу ім выказаў падзяку ўрад маладой рэспублікі. Такія падзякі прыходзяць амаль з усіх краін, дзе працавалі або працуюць беларускія трэнеры.

Замежныя спартсмены часта праходзяць стажыроўку ў складзе зборных каманд СССР і БССР, што трэніруюцца ў Беларусі. У апошнія гады асабліва папулярны ў савецкіх і замежных спартсменаў алімпійскі лагер „Стайкі", дзе створаны дасканалыя ўмовы для трэніровак.

Беларускія спартсмены маюць выдатныя вынікі ў спаборніцтвах самага вялікага рангу. На Алімпіядзе ў Манрэалі ў 1976 г. выступала 25 беларускіх спартсменаў. Сямёра з іх: стралок Аляксандр Газоў, фехтавальшчыкі Алена Бялова і Віктар Сідзяк, гімнастка Ольга Корбут, раварыст Уладзімір Камінскі, вясляр Уладзімір Раманоўскі і атлет цяжкай вагі Валеры Шарый сталі алімпійскімі чэмпіёнамі.

Кандыдатамі ў зборную каманду СССР на Алімпіяду ў Маскве выбраны 63 спартсмены Беларусі, яны прадстаўляюць васемнаццаць відаў спорту.

У Беларусі сфармаваўся шэраг спартыўных школаў, якія задаюць „моду" на ўсесаюзнай і замежнай спартыўных арэнах. Самую багатую на свеце калекцыю медалёў сярод барцоў, напрыклад, здабыў мінчанін Аляксандр Мядзведзь.

**(Працяг на стар. 5)**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**

**У Дабрывадзе • Пра букатаў Астроўскага • На адно пытанне адказвае начальнік Бельскай гміны • На запаведных сцежках • Шукаючы фальклору • Фата-маргана • Жыве Плаксей! • Амба! — заключае Дзядзька Квас • Пытанні для кандыдатаў на беларускую філалогію • Весткі з Гайнаўкі, Трасцянкі, Нараўкі, Парцава, Тафілаўцаў, Нарвы, Крушынян • Калі сняцца грушы • Што такое гармонія • Беларуская песня „Кася".**




**Niedziela 23 III** — 5.40 TTR i RTSS — J. pol. sem. II. 6.10 Biolog. sem. II. 6.40 Now. w domu i zagrodzie. 7.10 Emerytury dla rolników. 7.20 Telewizjada. 7.55 Program dnia. 8.00 Dziennik. 8.15 Piosenki z Kołobrzegu. 9.00 Teleranek oraz „Dick Turpin" — odc. pt. „Pościg". 10.25 Antena. 10.50 Pilot Haresz — rep. 11.20 Barbara Hesse Bukowska. 11.50 Bobry — filmowa opowieść. 12.15 Dziennik. 12.35 Rolnicze rozmowy. 13.10 Gram dla. 14.10 Krakowski Teatr Baśni — Czary mistrza Bartłomieja. 15.00 Los. Dużego Lotka. 15.15 Koncert życzeń. 16.00 Lwy w Serenghetti — z serii Jane Goodall. 16.55 Anatomia dekady. 17.10 Tele-Echo. 18.10 Decydujący Front — Berlińska operacja — film TV radz. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.15 Dyliżans — western USA. 21.50 Dziennik. 22.10 Bonsoir Lille — dobry wieczór Katowice — koncert roz.

**Poniedziałek 24 III** — 12.45 TTR i RTSS — J. pol. sem. IV. 13.25 Hist. sem. IV. 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Naucz. począt. kl. III. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Studio Młodych. 17.10 Dom i my. 17.20 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.45 Ucieczka z krainy złota — film przyg. TV CSRS. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr TV — Antoni Czechow — „Wujaszek Wania". 22.15 Świat i Polska. 23.00 Dziennik.

**Wtorek 25 III** — 6.00 TTR i RTSS — J. pol. sem. IV. 6.30 Hist. sem. IV. 11.05 Dla szkół. Pr. dla najmłod. kl. I—III. 12.00 Fiz. kl. VI. 12.55 Pr. dla szkół śred. kl. I—II. 13.25 TTR i RTSS — Mat. sem. II. 14.00 Chem. sem. II. 15.25 Program dnia. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Młodych. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.20 Wojsk. pr. hist. 17.45 Sonda. 18.10 Jaskiniowcy — odc. pt. „Dwaj kapitanowie" — ameryk. film anim. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 Skojarzenia — teletur. 19.30 Dziennik. 20.10 Szpital miejski — odc. pt. „Synowie i córki" — film TV ang. 21.05 Widowisko rozr. 21.50 Siotry — rep. 22.10 Camerata. 22.35 Dziennik.

**Środa 26 III** — 6.00 TTR i RTSS — Mat. sem. II. 6.30 Chem. sem. II. 11.05 Dla szkół — Fiz. kl. VIII. 12.00 Chem. kl. VIII. 12.45 TTR i RTSS — Mat. sem. IV. 13.25 Geogr. sem. IV. 14.30 W drodze do nowego. 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Psych. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kameleon. 16.55 Mecz piłki nożnej Polska—Węgry. 18.50 Dobranoc. 19.00 Przyr. opow. Wł. Puchalskiego — „Od żaby do krokodyla". 19.30 Dziennik. 20.10 Raboliot — fr. film fab. 21.50 X Y Z — cz. I. 22.20 Konfrontacje. 22.45 X Y Z — cz. II.

**Czwartek 27 III** — TTR i RTSS — Mat. sem. IV. 6.30 Geogr. sem. IV. 11.05 Dla szkół — J. pol. kl. VII—VIII. 12.00 J. pol. kl. II lic. 13.40 TTR — Hod. zwierz. sem. II. 14.10 Mech. rol. sem. II. 15.25 Program dnia. 15.30 Decyzje piętnastolatków. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC oraz „Złoto Huntera" — odc. pt. „Iluzjonista" — film TV ang. 17.30 Studio Młodych. 17.45 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.10 Poligon. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 W kinematografie — Nasi ulubieńcy Flip i Flap. 19.30 Dziennik. 20.10 Brygady Tygrysa — odc. pt. „Różne oblicza sprawiedliwości" — film TV fr. 21.10 Pegaz. 21.55 Pełen guślarstwa obrzęd świętokradzki. 22.55 Dziennik.

**Piątek 28 III** — 6.00 TTR — Hod. zwierz. sem. II. 6.30 Mech. rol. sem. II. 11.05 Wych. obywat. kl. VII. 12.00 Dla szkół — Biolog. kl. VI. 12.55 Geogr. kl. VIII. 13.25 TTR — Hod. zwierz. sem. IV. 14.00 Mech. rol. sem. IV. 14.30 Red. szk. zap. 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Filozof. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kółko graniaste. 16.55 Studio Młodych. 17.10 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.35 Magazyn motor. 18.00 Czterdziestolatek — odc. IX pt. „Rodzina czyli obcy w domu". 18.50 Dobranoc. 19.05 Pr. muz. 19.30 Dziennik. 20.10 Kontrapunkt. 22.20 Planeta Ziemia — Era ssaków. 22.50 Dziennik.

**Sobota 29 III** — 6.00 TTR i RTSS — Hod. zwierz. sem. IV. 6.30 Mech. rol. sem. IV. 11.05 Przysposob. obronne. 12.45 TTR i RTSS — Fiz. sem. II. 13.25 Biol. sem. II. 14.10 Program dnia. 14.15 Radzimy rolnikom. 14.25 Obiektyw. 14.45 Dziennik. 14.55 Magazyn lotniczy. 15.25 Orbita. 15.55 Studio Młodych. 16.15 Gwiazdozbiór — Vittorio De Sica. 17.00 I liga piłki nożnej. 17.55 Szanujmy wspomnienia — śpiewa A. Bogucki. 18.50 Dobranoc. 19.00 W świecie dzikich zwierząt — Borsuk. 19.30 Dziennik. 20.10 Mister Jerico — film fab. ang. 21.40 Dziennik. 21.55 Widowisko obyczajowo-sens.




**Piątek 21 III** — 7.35 Film fab. ser. 17.20 Film anim. 17.50 Film fab. ser. 20.50 Pr. estrad.

**Sobota 22 III** — 7.35 Film fab. ser. 15.30 Koncert życzeń. 16.15 W świecie zwierząt. 17.50 i 19.35 Film fab. 20.40 Pr. estrad.

**Niedziela 23 III** — 12.00 Film fab. ser. 13.20 Koncert życzeń. 14.05 Klub podróży. 15.05 Filmy anim. 15.25 Koncert. 16.00 Panorama międzynar. 16.45 Film fab. 17.55 Film dok. 19.35 Spotkanie z J. Nagibinem. 21.00 Pr. muz.




**Białowieża** Tenesse Skatiu — rum. 25—26. Maratończyk — USA 27—28. Lampy naftowe — czes. 29—30.

**Bielsk Podl.** Rój — USA 24—27. Zielone lata — pol. 28—29. Nie wychylać się — jug. 30.

**Czeremcha** Człowiek klanu — USA 25—26.. Sindbad — węg. 29—30.

**Czyże** Agnieszka idzie na śmierć — wł. Miecz — węg. 26—30.

**Gródek** Pełnia — pol. 29—30.

**Hajnówka** Wendetta — fr. 24—26. Powrót różowej pantery — ang. 27—28. Pani Minister tańczy — pol. 29—30.

**Michałowo** Trzy dni Kondora — wł. 25—26. Konie Valdeza — wł. 27—28. Gwiazda estrady — radz. 29—30.

**Mielnik** Niewierna żona — fr. 26. One dwie węg. 29—30.

**Milejczyce** Krzyżacy — pol. Wagon sypialny — jug. 26—30.

**Narew** Skradziona kolekcja — pol. Szczęście jest tak blisko — rum. 26—30.

**Narewka** Mistrz kierownicy ucieka — USA. Stawiam na trzynastkę — czes. 26—30.

**Nurzec** Bezdomny — buł. 25—26. Placówka — pol. 27—28. Dyrektor do wszystkiego — rum. 29—30.

**Orla** Ifigenia — grec. Pięć wieczorów — radz. 26—30.

**Rajsk** Jabberwocky — ang. Prorok, złoto i siedmiogrodzianie — rum. 26—30.

(Працяг са стар. 1)

# НАШ ГОЛАС

ўзнік у нашай краіне нацыянальны грамадскі фонд аховы здароўя. На грамадскіх пачатках будуем **помнік — цэнтр здароўя дзіцяці**, які заваяваў ужо сусветную славу, будуем анкалагічны цэнтр і шмат іншых, не менш важных аб'ектаў для аховы здароўя.

Гэта ў межах цэлай краіны. А ў нас, на Беласточчыне? У нас — асяродкі здароўя ў Боцьках, Нараўцы, Янове, раённыя амбулаторыі ў Беластоку, Васількове і Чорнай Беластоцкай, міжзаводская амбулаторыя для прамысловай службы аховы здароўя ў квартале Беласточак у Беластоку, шэсць ясляў, дом грамадскай апекі для ста чалавек ва Ухове пад Лапамі, бальніцу на 258 ложак у Саколцы, бальнічны павільён на 210 ложак у Беластоку... І гэта ўсё на працягу бліжэйшых двух гадоў.

Каб спакойна дажывалі мы свой век — асабліва ў вёсках, ужо ад 1 ліпеня гэтага года ўводзіцца ўсеагульнае пенсіённае забеспячэнне сялян ва ўзросце: 60 гадоў для жынчын і 65 гадоў для мужчын. Аблічваецца, што яшчэ ў гэтым годзе нейкіх 180-200 тысяч сялян, якія аддадуць свае гаспадаркі дзяржаве або наследнікам, скарыстаюць з дабрадзействаў гэтай пастановы. Зямля пяройдзе ў болей спраўныя рукі, а старэнькія, спрацаваныя сяляне спакойна будуць дажываць свой век. І праяўляюцца тут не толькі гуманныя адносіны партыі і дзяржавы да тых, хто цэлае сваё жыццё дабываў хлеб, але зямлю проста трэба выкарыстоўваць усё болей інтэнсіўна. Гэта цяпер бадай што найважнейшая справа. У нас ёсць усе неабходныя ўмовы дзеля таго, каб сяляне змаглі самі пракарміць грамадзян краіны, каб да мінімума абмежаваць страшэнна капіталаёмкі імпарт харчавых прадуктаў. Перш за ўсё трэба шматзначна павысіць вытворчасць збожжавых і кармоў — гэта ж аснова для жывёлагадоўлі. Такую праграму ўказвае нам партыя і знаходзім яе таксама ў выбарчай платформе Фронту адзінства народу.

І за гэта наш голас. А яшчэ мы галасуем за братэрскае супрацоўніцтва з Савецкім Саюзам і краінамі народнай дэмакратыі, за мірнае супрацоўніцтва з цэлым светам, за спыненне гонкі тэрмаядзерных узбраенняў...

Вось за што наш голас! І ўсё гэта здзяйсняецца ў простым акце нашага ўдзелу ў выбарах, калі звычайна апускаем выбарчы бюлетэнь з прозвішчамі кандыдатаў ФАН у паслы Сейма і ваяводскія рады. Наш голас, нават гэты адзіны, вельмі багаты зместам.

**Віктар Рудчык**



*Новы Беласток. Пасёлак Сянкевіча. Фота Я. Целушэцкага.*

## ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ АДУКАЦЫЯ

У Васількоўскай гміне ад пачатку лістапада мінулага года існуюць тры школы грамадска-палітычнага абучэння вясковых жанчын I і II ступені ў Сахонях, Студзянках і Юроўцах. Займаецца ў іх 85 жанчын, у асноўным членаў гурткоў вясковых гаспадынь (КГВ). Заканчэнне заняткаў прадбачваецца ў красавіку бягучага года (у мінулым годзе вучылася 118 асоб). Тэмы іх звязаны з галоўнымі напрамкамі грамадска-гаспадарчага развіцця горада, гміны і Беластоцкага ваяводства ў бліжэйшыя гады, ролю КГВ у развіцці сучаснай сельскай гаспадаркі і ў паляпшэнні ўмоў жыцця жыхароў вёскі, выкарыстання прадукцыйных рэзерваў, рэалізацыяй рэформы асветы. Восем КГВ, у тым ліку 250 кабет, удзельнічае ў конкурсах, арганізаваных вясковай спулдзельчасцю: „Больш малака высокай якасці!" (ён спрыяў развіццю гадоўлі малочнага быдла і павышэнню якасці малочных вырабаў) і „Больш агародніны, фруктаў і кветак!" (ён карыстаўся асаблівай папулярнасцю). З кожным годам актыўнасць вясковых жанчын павялічваецца, пашыраецца іх удзел у арганізаванні сучасных форм гаспадаркі і ў грамадска-палітычнай дзейнасці. У працы дапамагае ім цэнтр „Сучасная гаспадыня" (вядзе іх ГС), які наладжвае паказы з галіны рацыянальнага харчавання і кравецкія курсы. Вялікім зацікаўленнем карыстаюцца лекцыі ў рамках школы здароўя. Удзельніцы іх вучацца, як берагчы здароўе і дбаць пра асабістую гігіену.

У Сахонях існуе ўжо 11 год аматарскі харавы калектыў „Рабінкі", якім апякуецца настаўніца мясцовай школы Марыя Вярцінская. Тут самы актыўны гурток вясковых гаспадынь (узначальвае яго Маніка Рагоўская), які штогод арганізуе вясковы дзяцінец для малалетак.

Сахонеўскія жанчыны нядаўна выступілі з мастацкай праграмай у Студзянках. З вялікай дапамогай ім і кабетам з другіх вёсак прыходзіць інструктар па справах КГВ васількоўскага СКРу, Галена Завадская.

У Студзянках (тут 250 гаспадарак) адначасова з партыйнай вучобай арганізаваўся сельскагаспадарчы курс. У Сахонях і Юроўцах арганізавалі жанчыны па адной па-сучаснаму абсталяванай кухні. У хатах жанчын, членаў КГВ. Гэтыя кухні будуць выкарыстоўвацца ў час вядзення кулінарных курсаў і арганізавання кулінарных паказаў, напрыклад, як зрабіць вінегрэт (салатку з сырой агародніны), залівную рыбу, грыбны соус і г.д.

Ведаў ніколі не замнога. Яны залог лепшых вынікаў у сельскагаспадарчай прадукцыі. У Студзянках сяляне, удзельнікі курсу, знаёмяцца перш за ўсё з такімі тэмамі: рацыянальнае прымяненне мінеральных угнаенняў на зялёных угоддзях і пад збожжавых культуры, рацыянальная гаспадарка зямлёй, эканомія ў спецыялістычнай гаспадарцы, выкарыстанне кукурузы на кішонкі, развіццё гадоўлі высокамалочнага быдла і іншымі.

Жаночыя арганізацыі ў сваёй дзейнасці многа ўвагі прысвячаюць справам сістэматычнага паляпшэння ўмоў жыцця і выхавання дзяцей. Гаспадыні бачаць вялікія шанцы для сваёй гаспадаркі ў спецыялізацыі прадукцыі. У рады партыі ў апошні час уступілі гаспадыні, якія вядуць спецыялістычныя гаспадаркі: Аліцыя Пуш (мае яна вышэйшую адукацыю, займаецца агародніцтвам) і Марыя Сядлецкая (яна спецыялізуецца ў гадоўлі свіней). Абедзве з вёскі Рыбнікі.

Зараз гмінная партыйная арганізацыя налічвае 436 чалавек, 60 працэнтаў — гэта жанчыны. Трынаццаць жанчын з'яўляюцца раднымі рады нарадовай горада і гміны (усіх радных у Васількоўскай гміне 40 асоб). Адна з дзяячак выконвае функцыю солтыса ў вёсцы Варашылы.

**Я. Целушэцкі**

ЗАПІСКІ НАТУРАЛІСТА

## НА РЫНКУ Ў БЕЛЬСКУ

Чацвер, 1 лютага 1979 г. Зіма суровая. Усюды снег ды мароз. Нарэшце пайшло на адлігу. Праз пакрытыя шэранню дрэвы прабіваецца блакіт неба. Базарны дзень. У доўгім раду на зямлі ляжаць тушы гусей. Целы іх — папсаваныя, панявечаныя і абскубаныя... Куды падзелася прыгажосць гэтай разумнай ды дружалюбнай птушкі? Вядома, што гусь на панадворку важна паходжвае, адчувае сябе гаспадаром. На чужых сакоча, гагоча. Незвычайнай ветлівасцю сустракае гаспадара, яго жонку, дзяцей... Насуперак прынятаму хлусцяцкаму паняццю, гусь сваю мову мае. Яна гагоча або сакоча, паказвае сваю радасць і незалежнасць. Цяпер ляжыць, абскубаная, пасінелая... Біяхімічныя працэсы ў забітай ды неачышчанай птушцы ўжо паспелі стварыць трупны яд. Шкоднасць яду — бясспрэчная. Паляўнічыя аб гэтым добра ведаюць. У забітай птушкі неадкладна выцягваць усе ўнутранасці.

Побач курыны рынак. Нейкая жанчына трымае пажылога пеўня. Пасінелы грэбень вісіць на бок. Каравыя ногі звязаныя. Дрэмле. Вочы паўадкрытыя. Спакойна чакае... смерці.

Стаянка фурманак. Знаёмы з твару гаспадар з сяла Зубава. Абменьваемся прывітальнымі жэстамі.

— Чаго прыехалі? — пытаю.

— Прывёз на рынак крыху кваснічак, — адказвае.

Конь стаяў, спацелы. Ад яго клубамі кацілася пара. Гаспадар адыходзіць.

— Каня прыкрыйце. Прастудзіцца ды прападзе.

— Ага... А я й забыў. Зараз зраблю гэта.

Іду ў аддзел прамысловых тавараў. Прыгожы металічны спінінг. Прылада, якую я лічу негуманнай. Злоўленага маляўка рыбы жывым насаджваюць на кручок, як прывабу. Якое гэта варварства! А сядзець над вадой з чарвяком на кручку? Ці можна гэта назваць спортам? Метад яўна ўстарэлы. Трэба вынайсці прыладу, якая пры закідванні ловіць рыбу непашкоджанай ды без чарвякоў дзейнічае. Дарэчы тут сказаць — рыба ўжо паразумнела. З году ў год усё больш цяжка яе падманваць. Рыбаловы часта вяртаюцца дамоў з пустымі торбамі.

Далей у будцы на рынку прадаецца свініна. Не цікавіць мяне яе цана. Мае думкі накіраваны на бесчалавечнае забіванне жывёлы ў хатніх умовах. Мясакамбінаты перайшлі ўжо на электраімпульсійны метад забівання. Слава ім за гэта!

Маё становішча яснае. Звяртаюся да Таварыства аховы жывёлы, каб апрацавалі свае прапановы па гуманнаму забіванню. Чытачы ды карэспандэнты! Прашу, адгукніцеся на мой заклік!

**Інж. Б. Ф. Рудкоўскі**

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## ВАРАШЫЛЫ

Чым даўжэй чалавек блукае па Беласточчыне, тым усё мацней пераконваецца, што яе гісторыя пісалася не толькі сякерай лесаруба.

Возьмем хоць бы невялічкую вёсачку Варашылы (па шашы з Беластока ў Аўгустаў у сямі-васьмі кіламетрах паварочваеце направа, на жвіроўку, і паўтара-двух кіламетрах злева перад вамі з пералескаў выглядае гэтая мясціна), што складаецца ўсяго з дзесятка гаспадарак на сваёй даўнішняй сялібе і са стольких жа параскіданых хутарамі па наваколлі. Прычапілася яна, бы ластаўчына гняздо, да зарослай хвойнікам-„байрачком" стромкай Гары і праз Агароды глядзіць, як уецца сярод алешын па разлеглым поплаве быстрая плынь рэчкі Чорнай, правага прытоку Супраслі.

І глядзіць так, бадай, не меней пяці стагоддзяў, бо найпазней ад таго часу, калі недзе каля 1480 г. па загаду караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка старасты гродзенскі Станко Судзівоевіч і бельскі Алехна Саковіч, а таксама „лоўчы гаспадарскі" Мішко Віштаровіч і намеснік камянецкі Аляксандр Дрождча ўстанавілі трывалыя граніцы паміж пушчамі Ганёндскай, Гродзенскай, Бельскай, Ваўкавыскай і Камянецкай (сённяшняй Белавежскай). І якраз тут, па руслу рэчкі Сакольдка Лядская (цяперашняя рэчка Чорная), праходзіў „паложаны" імі „рубеж" паміж пушчамі Бельскай і Гродзенскай. Калі ўжо гранічныя капцы былі насыпаны, а на самых відных ды здаровых дубах зацесаны „рубы", відаць, „пасадзіў" той самы Судзівоевіч на „гродзенскім" левым беразе гранічнай рэчкі нейкіх людзей для пільнавання даверанай яму гаспадарскай маёмасці ад пранырлівых паляўнічых і бортнікаў — падданых бельскіх. Хто яны былі, тыя першыя пасяленцы, — невядома, але напэўна на сваю сядзібу выбралі месца выгоднае і абжытае.

Яшчэ ў XIII стагоддзі вялі тут актыўную гаспадарчую дзейнасць падданыя князя Васілька Раманавіча Уладзі-



*У горад і ў госці ў Варашылах ездзяць у санках-„шытках" канём пад бомамі-„шалястунамі".*

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, я нядаўна выйшла замуж. Жывем у цесцяў. Спачатку было вельмі добра. Муж добры, а цёшча — як маці для мяне. Але пачала прыходзіць да мяне мая сяброўка. І праўда, заседжвалася часам і доўга, бо і да дванаццатай гадзіны ночы. Мне здавалася, што нікому гэта не перашкаджае. Але аднойчы нечакана ўвайшла ў пакой цёшча і сур'ёзна сказала, каб сяброўка выйшла. Пара ўжо спаць. Мне было вельмі прыкра. Я ёй сказала, што кепска яна паступіла. Тады пасыпаліся і на мяне паклёпы. Потым ужо ўсё, што я зраблю, цёшчы не падабалася. І абед зварыла не так, і прыбрала не так, а кожнае слова маё да яе здаецца абразлівым. Мала таго, але цёшча пачала і сына бунтаваць супраць мяне. А я цяпер цяжарная і баюся, што будзе далей. Муж кажа, што ўсё будзе добра, але я не бачу, каб тут ішло да дабра.

Марыся з Беластока

**Марыся!** Як гаворыцца ў народзе, „няма тае хаткі, каб не было звадкі“. Вы з цёшчай перагаварыліся, злуеце адна на другую, таму цяжка вам гаварыць мілымі словамі. Але паколькі вы да гэтае пары жылі так згодна, думаю, ізноў усё наладзіцца. Жыццё разам з цесцямі напэўна нявыгаднае ані вам — маладым, ані ім. Але пакуль няма магчымасці адасобіцца, трэба старацца жыць так, каб не дакучаць адны другім. Не пераўвялічваць дробязей, якія істотнага значэння не маюць, але настрой могуць сапсаваць. Абодва бакі павінны падыходзіць да спраў са зразуменнем і талеранцыяй.

**Сэрцайка**

# Куток практычных ведаў




## ЯК БЫЦЬ ЭЛЕГАНТНЫМ

Многія нашы чытачы звяртаюцца няраз з пытаннем: як быць элегантным, як апранацца, каб выглядаць сапраўды добра апранутым?

Адказаць на гэта пытанне ў нашыя мітуслівыя часы нялёгка. Калісьці людзі інакш апраналіся раніцай, інакш — у поўдзень, зусім інакш — вечарам. Відаць, мелі на гэта час і магчымасць. У нашыя неспакойныя часы, звязаныя з несамавітым развіццём тэхнікі, недахопам часу, эмансыпацыяй жанчын, цяжка ўявіць сабе нават, што нехта апранецца раніцай у адну вопратку, апоўдні аўтобусам будзе цягнуцца праз цэлы горад з працы, каб пераапрануцца, а пасля зноў пераапранецца на вечар. У сённяшнія часы нават у тэатр людзі ходзяць амаль, як штодзень.

Што значыць быць элегантным? Некаторыя мужчыны лічаць, што дастаткова мець адзін добра пашыты касцюм нейтральнага колеру, а да яго заўсёды добра пачышчаныя туфлі і чыстую, са старанна адпрасаваным каўняром кашулю. Можа гэта і праўда. Але ў нашыя часы асабліва элегантнай і моднай стала спартыўная вопратка, у якой чалавек сябе адчувае дасканала і на працы, і ў трамваі, і стоячы ў чарзе за пакупкамі.

А наогул, калі хто хоча выглядаць элегантна, то яго вопратка не павінна кідацца адразу ў вочы. Інакш — чалавек быў бы апрануты экстравагантна.

**Сяброўка**



# ВЕР-НЕ-ВЕР

Нас немцы каля 100 чалавек паставілі ў калону і пагналі ў канцлагер Майданэк. Я ішоў са сваімі равеснікамі. Калі завялі нас у канцлагер, немцы пачалі абвінавачваць, за што хто будзе пакараны. Даходзіць да мяне вестка, што трэба ўцякаць. Я папрасіў, каб мой друг засланіў мяне плячыма. Ён гэта зрабіў, і я даў ходу з канцлагера. Бег адтуль праз розныя вуліцы. Скінуў у час пабегу з сябе вопратку, шапку, абутак, кідаў усё гэта ў розныя бакі, каб зацерці след, каб лягчэй было ўцякаць. Аднак пасля 2-3 гадзін уцёку пачуў, што ідзе за мною пагоня. Бягуць за мной немцы і брэшуць сабакі. Тады я схаваўся ў драўляным будынку ў сена. Калі сабакі ўбеглі ў гэты будынак, я вылез з сена, каб схавацца ў іншае месца. І тут накінуліся на мяне два сабакі. Пачалі кусаць, хватаць зубамі за вопратку. Вельмі брахаў гэты малы сабака. Больпы сабака не быў такі агрэсіўны. Немец хацеў мяне ўдарыць кожанай плящёнкай-кнутом, але не біў. Пагнаў мяне назад у канцлагер. Увайшоўшы ў канцлагер, я ўбачыў, як цяжка працуюць вязні. Толькі адзін мой знаёмы, вельмі худы і зарослы, сядзіць на ляжачай паўжывой свіні. Свіння гэтая велізарная, ляжыць у драўлянай капанцы. Мой знаёмы абгрызвае свінячае вуха, якое трымаў у левай руцэ, а правай рукой стараўся адрэзаць правае вуха гэтай паўжывой свінні. Я так падумаў: табе не так яшчэ тут кепска (еў мясавуха), а мяне то будуць карміць вывараміз бруквы. Я апынуўся сярод знаёмых вязняў з калоны. Адзін з вязняў кажа мне: „Няўдача, Іван, з пабегам“, а я яму кажу, што калі б меў бутэлечку тэрпэнтыны, то зацёр бы сляды і гітлераўцы мяне з сабакамі не дагналі б па слядах. У той момант я і прачнуўся.

Іван

**Іван!** Слёзы паяўляюцца ў вачах, калі чытаеш твой сон. Колькі гора перанеслі людзі! Успаміны пра вайну ў сне прадвяшчаюць нейкую спрэчку, непрыемнасць, а яшчэ ж былі злосныя сабакі, свіння...

**Астрон**



*Тут, дзе цяпер рэшткі млына каля рэчкі Чорнай, напісана значная частка гісторыі вёскі Варашылы.*

(Працяг са стар. 5)

# Варашылы

вакольная бедната асталася як на ляду. Праўда, пасля вайны фабрычныя руіны набыў васількоўскі войт Дамінік Сабалеўскі, прыспасобіў іх на млын, а замест кола паставіў турбіну. Млын славіўся мяккай разоўкай, духмяным пытлем, чыстымі крупамі. З'язджаліся сюды сяляне нават з-пад Янава і Карыціна. Ды гэта не цешыла варашыльцаў — на млыне працавалі ўсе Сабалеўскія і нікому чужому нават і зламанага граша не перапала. І пацягнуліся людзі на фабрыкі ў Васількове, Беластоку.

І дзіўна: змянілася карэнным чынам жыццё ў Варашылах, але традыцыйная цяга да працы на тэкстыльных фабрыках асталася. Сёння па-за сельскай гаспадаркай працуе адсюль каля 15 чалавек, з іх аж 10 на васількоўскай „Плятэроўцы“, беластоцкіх „Сяржане“ і „Фастах“, адзіная студэнтка з Варашылаў — Барбара Брулінская — і тая займаецца ў Лодзінскай палітэхніцы на тэкстыльным факультэце!

І ўсё ж і ў Варашылы завіталі перамены. Тры гаспадары заснавалі прамысловую гадоўлю курэй, адзін спецыялізуецца ў гадоўлі беконаў, яшчэ адзін пачынае будаваць ферму для курэй. Ці ў тутэйшага роду Варашылаў ды Залеўскіх, Завадскіх, Крукоўскіх, Луцкевічаў, Майсакоў, Эйсмантаў пачынаюць змяняцца зацікаўленні? Загляньце сюды ў грыбную пару, папытайце, а самі, калі не палянуецеся, набярэце поўныя кашы чарнагаловых баравікоў. Цяпер ўзімку ў Панэрцы нячысты чароту не косіць — багну меліяравалі.

**Мікалай Гайдук**

(Працяг са стар. 5)

# Жыццё на валаску

Так і не даведаўся дзядзька Аляксандр, як гітлераўскія афіцэры разумеюць слова **„камуніст“**. З іх размовы, з допытаў зразумеў аднак, што яны рашылі злавіць усіх мужчын з вёскі Слохі, Клекатова, Агароднікі і абедзвюх Турнаў.

— Выбіць да душы! — паўтараў маёр.

— Не памятаю, як доўга мы там яшчэ ляжалі, — гаворыць Аляксандр Панасюк. — Можа гадзіну, або і дзве... Патраціў я зусім ужо надзею на тое, што буду жыць. Нават думаў па-дурному, каго з нас першага паставяць над гэтай магілай? І даходзіў да вываду, што гітлераўцы болей заўзятыя на яўрэяў, дык хіба я нейкую хвіліну даўжэй пажыву...

Здарылася інакш. Падагналі грузавы аўтамабіль і пасадзілі іх траіх у кузаў, дадаўшы ім да кампаніі двух салдатвартавых. Афіцэры размясціліся ў кабіне.

*„Куды нас павязуць?“* — прыкідаў у думках дзядзька Аляксандр, у якога зноў засвяціла іскрынка надзеі.

Павярнулі ў бок Сямяціч. Ад Слохаў далятала глухая страляніна, а сухое паветра было перапоўнена пахам згарэўшай саломы і спаленай вопраткі. Спыніліся перад вёскай, там, дзе шаша ўзнімаецца на ўзгорак, дзе за гэтым узгоркам ляжалі яшчэ трупы расстраляных жыхароў Слохаў. З кабіны выскачылі афіцэры і жыва аб чымсьці гаварылі. Аляксандр Панасюк іх не разумеў, але яўрэі... Глядзеў на іх і бачыў, як яны то бледнуць, то зноў чырванеюць. Урэшце афіцэры селі на свае месцы, і аўтамабіль на поўнай хуткасці праскочыў праз спаленую вёску, праляцеў, як віхар, побач абгарэлага дота, які адзываўся яшчэ рэдкімі выстраламі. Спыніліся яны на скрыжаванні дарог, дзе цяпер размясціўся рэстаран „Кміціц“, а непадалёк знаходзіцца могільнік. Менавіта натрапілі на ўрачыстасць пахавання кагосьці важнага. Іграў аркестр, нямецкія салдаты застылі на „смірна“, а з кабіны выскачылі афіцэры і таксама з пашанаваннем знялі свае высокія, задзертыя шапкі...

...Што ж, задоўга было б расказваць усе падрабязнасці далейшага лёсу Аляксандра Панасюка. Разам з іншымі мужчынамі з навакольных вёсак астаткова апынуўся ён у смалярні на станцыі Сямяцічы, пра якую я ўжо не адзін раз успамінаў.

— На другі або на трэці дзень... цяжка цяпер прыгадаць, — кажа селянін, — у сямяцкую смалярню прыгналі савецкіх афіцэраў... Так, адных афіцэраў, радавых там не было, толькі адзін старшына з жонкаю...

— З жонкаю? Адкуль вы ведаеце, што з жонкаю?

— Бо яны жылі ў нашай вёсцы, толькі забыў, як называліся... Не помніш, старая? — звярнуўся ён да сваёй жонкі.

— А ці не будзе гэта Гарэлава? — адказала цётка Панасіха.

— Так, і я ўспомніў, напэўна Гарэлава. Такая абгарэлая, закопчаная, чорная, як з пекла родам... Гаварылі, што яна разам з мужам у гэтай точцы да апошняй хвіліны змагалася.

Так, праўду гаварылі. **Анна Гарэлава** толькі што выйшла замуж за старшыну **Сяргея Гарэлава.** Яшчэ не нацешыліся яны сваім шчасцем, а тут... вайна. І занішто на свеце не захацела гэтая жанчына расставацца з мужам, — нават у час самых жорсткіх баёў. Толькі фашысты іх разлучылі. Старшыну Гарэлава разам з іншымі савецкімі воінамі пагналі ў лагер смерці, у Сухазебры, а ёй дазволілі вярнуцца ў Слохі да гаспадара, у якога раней жыла. Але вяртацца не было да чаго і каго... Гэта аднак ужо зусім іншая гісторыя, пра якую ў нас знойдзецца яшчэ нагода пагутарыць.

— Бачыў я там яшчэ іншых знаёмых савецкіх афіцэраў — кажа дзядзька Аляксандр. — Памятаю, што быў там доктар Маліноўскі...

— А што з гэтымі яўрэямі? — пацікавіўся я.

— Уявіце сабе, што на другі ці на трэці дзень, калі нас ужо прыціснуў голад, бо немцы не давалі нам есці, знайшлі мяне ў гэтым людскім натоўпе мае сябры-жыдкі і прапануюць мне хлеб з кавалкам шынкі ці грудзінкі... Адкуль яны ўзялі гэтае дабро, я і сёння не ведаю. Але ўзялі! І яшчэ частуюць мяне! *„Бяры! —* гавораць. *— Ты нам жыццё выратаваў! Бо мы разумеем нямецкую мову і ведалі, што хацелі нас усіх расстраляць на дарозе, як сюды везлі. Ты так маліўся, так хрысціўся, што яны паверылі, што ты не камуніст, ты нас выратаваў!“*

Паелі яны і разышліся, каб ужо болей ніколі не сустрэцца.

Аляксандра Панасюка адпусцілі дамоў, дзе на папялішчы хаты чакала яго жонка з дзецьмі.

— Каня ў мяне забралі, кароў пабралі, — уздыхае селянін. — Асталося толькі тры авечкі і... голае неба над галавой...

**Віктар Рудчык**

# ТРЫБУНА чытачоў

(Працяг са стар. 5)

## КАХАННЕ

настаўнік-рэнтыст апісаў цікавы эпізод. Памерла ў селяніна жонка. Адпяваючы нябожчыцу, бацюшка часта ўжываў словы „раба божая". А ў нябожчыцы з малых год твар воспа знявечыла. Селянін, хоць і жыў блізка царквы, мала разбіраўся ў царкоўных канонах. Не сцярпеў і кажа: — Даволі вам, бацюшка, паўтараць адно і тое ж: рабая ды рабая. Рабая яна была, усім вядома, але вядома таксама, што была працавітая, гаспадарлівая, людская. То не то, што твая матушка, прыгожая, цэлымі днямі спіць, а ноччу з маладым дзячком па загуменню швэндаецца...

Каханне, абапертае толькі на „чырвоных" губах, і перадўтварае чалавека ў скаціну. Гэткі погляд я выказаў, чаго і не можа мне прабачыць Дваракоўскі. Воля яго. Саламон-цар іудзейскі, з мудрацоў-мудрэц, быў адначасова і з жарабцоў жарабец. Трымаў у сваім стадзе 1 000 наложніц. Усё.

**Дзядзька Квас**

### Нашы пажарнікі

## У БЕЛЬСКУ

Пажарная ахова ў Бельску абгароджана трыма вуліцамі: Каперніка, Варынскага і Замкавай, якія ствараюць трахкутнік. Выязныя брамы з гаража знаходзяцца з боку вуліцы Замкавай. Выездаў да пажараў тут не бракуе, Бывае, што і па некалькі разоў у дзень. Раён аховы немалы, бо аж пяць гмін.

Шафёры пажарных баявых машын, выязджаючы з гаража, каб хутчэй ратаваць дабытак і не дапусціць да пашырэння пажару, вымушаны страціць многа часу, пакуль уключацца ў агульны рух на вуліцы Каперніка ці Варынскага, бо няма тут ніякага знаку, які б вулічным шафёрам звяртаў увагу, што ў гэтым месцы ў кожную хвіліну можа выехаць баявая пажарная машына. А на няшчасце тут многа не трэба. Бо не відаць Замкавай вуліцы. Добра было б, каб бельскія ўлады зацікавіліся гэтым і паставілі па два знакі на вуліцы Каперніка і Варынскага для агульнага дабра і бяспекі.

**С. Сцепанюк**

## У ТРАСЦЯНЦЫ

Адной з найбольш актыўных арганізацый у Трасцянцы з'яўляецца пажарная ахова. Налічвае 33 пастаянныя члены і 5 прыхільнікаў. Сярод членаў ОСП — дзве жанчыны. Актыўна працуе праўленне, якім кіруе шматгадовы старшыня яго Іван Грыгарук. У склад праўлення ўваходзяць таксама: Аляксандр Пашко — начальнік пажарнай аховы, яго намеснік — Іван Міхальчук, сакратар — Рыбінскі Міхал, касір — Ігар Васілюк, а таксама Іван Тайгуноў. Усе яны людзі сур'ёзныя і карыстаюцца вялікім аўтарытэтам.

Трэба яшчэ сказаць, што ОСП у Трасцянцы арганізавалася яшчэ ў 1931 годзе і ўжо людзі рыхтуюцца да свайго юбілею — 50-ай гадавіны арганізацыі. Найбольш стараюцца, каб арганізаваць памятны куточак. А бліжэйшыя планы — гэта пастаянная дзейнасць на тэму, як пазбягаць пажараў, як з імі змагацца. Хочуць у бліжэйшы час арганізаваць дахадовую забаву.

**Рута**



*Сакратар ВП ТППР Мар'я Альшэўская вітае маёра Г. Казарэза.*

## ВЕЧАР ДРУЖБЫ

Субота. У чаромхаўскім доме культуры „Калеяж" натоўп. Чыгуначнікі, школьная моладзь, жыхары навакольных вёсак прыйшлі на сустрэчу з афіцэрамі Савецкай Арміі. Госці былі запрошаны гмінным праўленнем Польска-савецкай дружбы з нагоды 62 гадавіны Савецкай Арміі.

Пачынаецца асноўная частка вечарыны. З святочным дакладам выступае І сакратар вузлавога камітэта ПАРП, потым прадстаўнік Савецкай Арміі маёр Генадзь Казарэз. І адно, і другое выступленне расказвае пра баявы шлях савецкага салдата і пра ролю савецкіх войск у цяперашні час. Афіцыяльную частку заканчвае выступленне сакратара Ваяводскага праўлення ТППР Мар'і Альшэўскай-Трахімяк, якая ўручае савецкім гасцям падарункі. У зале гарачая сяброўская атмасфера. І вось яшчэ адна сяброўская сустрэча. Гэта сустрэча з бельскімі „Васілёчкамі" і дубяжынскімі „Дубочкамі", якія былі запрошаны на святочны вечар. Праграма вельмі спадабалася ўсім, а асабліва салдацкія песні ў выкананні дубяжынскіх хлопцаў.

І яшчэ адна ўрачыстасць адбылася ў той дзень **у чаромхаўскім** „Калеяжы" — уручэнне ганаровых залатых значкоў ТППР і пачэсных грамат чаромхаўскім дзеячам гміннай ТППР-аўскай арганізацыі. І так, залатыя значкі атрымалі: З. Селях і Н. Філімонюк, а ганаровыя граматы — Ю. Дубковіч, М. Гарадкевіч, Л. Ляскоўскі, Н. Філімонюк і З. Селях.

Вечар у чаромхаўскім „Калеяжы" з нагоды 62 гадавіны Савецкай Арміі быў вельмі ўдалы, а гэта заслуга чаромхаўскіх ТППР-аўцаў і Ваяводскага праўлення ТППР у Беластоку.

Тэкст **Ул. Сідарука**
Фота **Тамары Курдалевіч**

## КЛУБ У ЯГАДНІКАХ

Ад месяца студзеня гэтага года ў Ягадніках штодзень адкрыты клуб прэсы і кнігі. Кожны вечар збіраецца тут многа вясковай моладзі. У клубе можна пагуляць у розныя гульні, паглядзець тэлевізар, пачытаць газеты. У клуб часта заходзяць і старэйшыя жыхары, каб купіць розныя дробязі.

Кіраўнік клуба дбае, каб паліцы не былі пустыя, і ўвогуле сумленна выконвае свае абавязкі. Доўгімі вечарамі ў клубе весела і прыемна праходзіць час.

**Ян Карчэўскі**

## МЯШАЛЬНЯ КАРМОЎ

Бельскі ГС мае ў Відаве сваю мяшальню кармоў. Кіраўніком тут з'яўляецца Васіль Трашчотка, а Павел Бусловіч — яго намеснік. Тэхнолагам працуе Міхал Асіпюк. Разам у мяшальні працуе 18 чалавек. Кожная брыгада штодзень рыхтуе па 30 тон мяшанкі. Машынамі корм з Відава развозіцца па ваколіцы і на склад ГС у Бельску. Відаўская мяшальня працуе ўжо больш як 15 гадоў. Тутэйшыя брыгады прымаюць удзел у конкурсе „Брыгада сацыялістычнай працы".

**Румі**

## ВЕТЭРЫНАР НА ВЁСЦЫ

Калі ў бельскай ветэрынарыі не хапала машын, каб маглі лекары выязджаць да хворай жывёлы, сяляне былі вымушаны наймаць таксі. Такім чынам пераплачвалі за паслугу. Цяпер у бельскай лячэбніцы для жывёлы ёсць тры добрыя машыны, ёсць і шафёры. Але сяляне ў далейшым наймаюць таксі, каб ратаваць хворую жывёлу. Чаму?

Вось на гэтае хітрае пытанне мы, сяляне, чакаем адказу ад ваяводскай ветэрынарыі ў Беластоку. Мне прыпамсі здаецца, што калі справа датычыць жыцця жывёлы, дык таксама, як і ў выпадку чалавека, бензіну павінна хапіць.

**Валянцін Семянюк**

## САПСАВАНЫЯ ТЭЛЕФОНЫ

Ужо многа часу прайшло, як нашы леснікі не карыстаюцца сваімі тэлефонамі ў лясніцтве Замоша і Масева ў Белавежскай пушчы. Тэлефоны тут стаяць для аздобы, бо яны сапсаваныя. Некалькі разоў прыязджала тэхнічная дапамога сувязі з Гайнаўкі, але толькі прыязджалі, направіць не направілі. Тэлефоны вельмі тут патрэбныя ўсёй лясной службе.

**УКС**



# НАША ПОШТА

Добры дзень, дарагая „Ніва"! Пішу „дарагая", бо сапраўды „Ніва" з'яўляецца для мяне зараз адзінай сяброўкай, ад якой магу даведацца пра розныя цікавыя рэчы са сваіх родных старон, менавіта з Гайнаўшчыны, Бельшчыны і Беласточчыны. Называюся я Янка Бура. Зараз мне 34 гады. Нарадзіўся і выгадаваўся я ў вёсцы Тарнопаль, што на Гайнаўшчыне. Там прайшлі мае дзяцінства і маладосць. Навучыўся там роднай беларускай мове — гаварыць, чытаць і пісаць. З Гайнаўшчыны многа разоў я пісаў у „Ніву" розныя апавяданні і гумары. Бываў таксама на з'ездах карэспандэнтаў „Нівы". Быць можа, усё было б добра, пісаў бы і далей, але мяне прызвалі ў армію на два гады ў горад Шчэцін. Ды і нездарма кажуць, што час змяняе людзей. Таксама было і са мной. Вярнуўшыся з арміі, я працаваў тры гады ў Беластоку магазінерам. Потым восем гадоў працаваў электраманцёрам на Беластоцкім прадпрыемстве тэхнічнай абслугі сельгасгурткоў „Эльтор". Зараз ужо два гады я брыгадзір на энергетычным пастарунку ў горадзе Сэйны. І хаця ўжо амаль чатыры гады жанаты і знаходжуся ў польскім асяроддзі, аднак сваёй роднай мовы не забыў і не забуду да канца жыцця. Я жанаты ў далёкім пасёлку Краснаполь, што на Сувальшчыне. Гэта па дарозе Сэйны-Сувалкі. У тутэйшым клубе кніжкі і прэсы „Рух" я адзін выпісваю і чытаю тыднёвік „Ніва".

Чытаючы першы нумар „Нівы" з гэтага года, не прамінуў я таксама вашай просьбы, у якой просіце чытачоў ахвяраваць запасныя нумары „Нівы". Тут жа я заглянуў у сваю калекцыю і пераглянуў „Ніву" ад пачатку да канца за гады 1977, 78 і 79. Выпісаў усе нумары, якіх мне бракуе. І тут устрымаўся і рашыў звярнуцца да вас з такім пытаннем: ці выслаць вам усе нумары „Нівы", якія я маю, ці мо толькі некаторыя патрэбныя. Тады напішыце, якія патрэбны. Ахвотна вышлю ўсе. Адначасова звяртаюся з пытаннем, ці прымеце мяне ў рады сваіх карэспандэнтаў. Я ўжо 12 гадоў да вас не пісаў, але цяпер прыйшла зноў ахвота весці з „Нівай" перапіску. Напішыце: так ці не.

З паважаннем ваш пастаянны чытач
**Янка Бура**

**Ад рэдакцыі.** Адказ на самае важнае пытанне: ахвотна прымаем вас у рады нашых карэспандэнтаў. Адносна высылкі „Нівы": ужо не высылайце, усе патрэбныя нумары мы ўжо атрымалі ад чытачоў.



# АДГАЛОСКІ

## „КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК".

„Краязнаўчы слоўнік" М. Гайдука вельмі папулярны сярод чытачоў. Аўтар гэтай рубрыкі не толькі здольны журналіст, але і таленавіты гісторык. Дзякуючы яго пяру і цярплівасці ў пошуках, можам даведацца многа аб гісторыі нашых вёсак, аб розных кутках і аб нашых продках.

Часта лягчэй знайсці іголку ў сене, чым нейкую важную інфармацыю аб нашым мінулым. У архівах розных бедна пра нас. І таму легенда мае вялікае значэнне. Яна передаецца з вуснаў у вусны, але вялікая доля праўды застаецца ў ёй.

Каштоўнае тое, што калісьці было, і тое, што закадавана ў легендах і казках. Сардэчнае дзякуй М. Гайдуку за яго працу. Не ўсе яшчэ, праўда, вёскі Беласточчыны апісаны аўтарам. На гэта трэба часу. І нават гісторыя Дубіч Царкоўных гэта белая пляма. Вучні нашай школы і не толькі яны адны хочуць ведаць пра сваю вёску і толькі адзін М. Гайдук можа гэта ім расказаць. На яго мы і ўскладаем надзею.

**М. Панфілюк**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ЯК Я ШУКАЎ БОТЫ", „Ніва" № 52 (1244) ад 30 XII 79 г.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKI ZWIĄZEK SPÓŁDZIELNI ROLNICZYCH „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" w BIAŁYMSTOKU.**

W sprawie niemożliwości zakupienia w sklepach obuwniczych obuwia dziewczęcego zimowego informuję, że pokrycie potrzeb rynku na ten rodzaj obuwia wynosi 45%. Obuwie jest ściśle dzielone na szczeblu centralnym i wojewódzkim na pion wiejski i miejski.

W obecnej sytuacji ze względu na znane trudności przemysłu, nie jesteśmy w stanie pokryć potrzeb rynku na szereg asortymentów obuwia zimowego i całorocznego wszystkich grup wielkościowych.

Z-ca Dyrektora
**Anatol Siergiejuk**

**Да публікацыі: „РАМЕСНІК ГЭТАК НЕ РОБІЦЬ", „Ніва" № 47 (1239) ад 25 XI 79 г.**

**Адказвае: GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" W HAJNÓWCE.**

Jak zostało ustalone w styczniu 1979 roku mieszkaniec wsi Tofiłowce, gmina Dubicze Cerkiewne, Ob. Żuber Włodzimierz zlecił wykonanie remontu imadła kowalskiego. Pomimo, że kierownik warsztatu Jurczuk Włodzimierz uprzedzał zleceniodawcę o tym, że nie jest w stanie wykonać tej usługi ze względu na brak odpowiedniego materiału i odpowiedniego sprzętu do nagwintowania gwintu prostego, zleceniodawca pozostawił w tym warsztacie imadło bez pokwitowania.

Decydując się na pozostawienie imadła bez pokwitowania, zlecenie nie nastąpiło formalnie, a jedynie na własne ryzyko Ob. Żuber Włodzimierz pozostawił ten przedmiot.

Obecnie to imadło znajduje się w warsztacie i w każdej chwili zleceniodawca może je odebrać. gdyż w dalszym ciągu warsztat nasz nie może wykonać tej usługi.

Wiceprezes D/s Handlu i Usług
**inż. M. Gacuta**

**Да публікацыі: „ДЗЕ КУПІЦЬ БАТАРЭЙКІ", „Ніва" № 2 (1246) ад 13 I 80 г.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKI ZWIĄZEK SPÓŁDZIELNI ROLNICZYCH „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" ZAKŁAD ARTYKUŁAMI PRZEMYSŁOWYMI I SPOŻYWCZYMI W BIAŁYMSTOKU.**

WZSR — ZOAPiS uprzejmie informuje, że zaopatrzono Gminną Spółdzielnię Narew w latarki elektryczne, żarówki i baterie.

Brak w ciągłym zaopatrzeniu baterii do latarek spowodowany był nierytmiczną dostawą przez producenta tj. Zjednoczone Zakłady Elektrotechniczne „Centra" w Stargardzie Gdańskim.

W miesiacu styczniu otrzymaliśmy zaległą dostawę baterii z IV wk. 79 r. co w poważnym stopniu poprawiło zaopatrzenie sieci detalicznej na terenie całego województwa.

Kierownik Działu
**T. Olechno**
Z-ca Dyrektora
mgr **Wiktor Jakimowicz**

## НЯСПРАЎНАЯ ХРОНІКА

У вёсцы Кур'яны гміны Заблудаў загарэўся мураваны будынак, прыстасаваны да гадоўлі курэй. Быў ён уласнасцю двух гаспадароў вёскі. У выніку пажару згарэла 14 тысяч штук курэй, вартасць 7 мільёнаў злотых.

